# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 10 (1765) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 11 САКАВІКА 1990 г. ЦАНА 600 зл

## Спяваць і жыць

Нядзельным днём 18 лютага 1990 года людзі, якім загадзя не ўдалося купіць білеты на фінальны канцэрт агляду „Беларуская песня '90", у роспачы адыходзілі ад кас Беластоцкай філармоніі. Некаторым неяк усё ж удавалася прабіцца. У зале людзі сядзелі і стаялі навокал. Журналісты-аматары пстрыкалі фотаапаратамі. Працаўнікі Беластоцкага радыёвяшчання старанна запісвалі ўсе песні, якія выконваліся на сцэне. У канцы залы беларускія студэнты махалі бел-чырвона-белымі сцягамі. Многія прыйшлі з зусім маленькімі дзеткамі, немаўляткамі проста. Відаць, жаданне пачуць беларускую песню было мацнейшае ў маладых маці ад выгады іх дзяцей. А дзеці папісквалі, хаця то бацька, то маці падкідвалі іх уверх, давалі бавіцца сваімі кліпсамі, каралямі і ўсім, што толькі было пад рукою. Будзь што будзе, абы далі паслухаць! Людзі білі брава, скандавалі, прыкляскалі выканаўцам. Цешыліся.

Такая была атмасфера ў час канцэрта фіналістаў конкурсу „Беларуская песня '90".

Ці быў калі дагэтуль такі багаты цэнтральны агляд?! Сумняваюся! Тым больш, што амаль усе цэнтральныя агляды, якія адбыліся дагэтуль, я чула і бачыла, а даволі часта даводзілася мне ацэньваць выканаўцаў у складзе журы конкурсу.

Сёлетні фінальны агляд характарызаваўся, як ніколі, разнастайнасцю рэпертуару і спосабу выканання, новымі творамі, зусім яшчэ свежымі калектывамі, багаццем выяўленчых сродкаў. На 44 прадбачаныя пазіцыі не прыехаў толькі дуэт з Гарадка. Відаць, не змог. Затое дадаткова, па-за конкурсам, выступіла жаночае трыо з Гайнаўкі і вялікі хор Гайнаўскага дома культуры пад кіраўніцтвам Анны Стрыха. Адным словам, хто рыхтаваўся, той і прыехаў. А калісьці ж звычайнай з'явай было тое, што прыязджалі не ўсе з тых, хто выказваў раней ахвоту выступіць. І думаю, што было гэта звязана не толькі з зімовай замецццю, але і з тым, што калектывы не былі занадта моцныя. Цяпер жа калектывы выраслі, і многія з іх едуць на Цэнтральны агляд цвёрда па ўзнагароду. Хаця... з узнагародай гэтай ніколі няма ўпэўненасці. Не ўсе тыя, што ў мінулым годзе былі лаўрэатамі, так паспяхова выступілі ў гэтым годзе. Цешыць, аднак, тое, што, ад'язджаючы дахаты без узнагарод, абражаюцца нямногія. Сёлета прайграў? — Нічога, выйграю на другі год! Большасць удзель-

(Працяг на стар. 6)



*Ала Дубец з Санока.*



*Спявае калектыў з Гарадка.*

## Галасы з Кангрэсу

*Дыскусія на Заснавальніцкім кангрэсе Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, у якой выступіла 18 прамоўцаў, галоўным чынам засяродзілася на трох комплексах праблем: абмеркаванні праграмы і статута партыі, будучых выбарах у тэрытарыяльныя самаўрады, месцы беларускага палітычнага руху ў палітычным краявідзе рэгіёна (і шырэй: краіны).*

*Паасобныя прамоўцы не абміналі таксама пытання беларускага лёсу ў шырэйшым кантэксце, зыходзячы з меркавання, што беларусы як нацыя складаюць адно духоўна-культурнае цэлае, нягледзячы на месца іх пражывання. Сёння прапануюю чытачам „Нівы" пераказ некаторых выступленняў на Кангрэсе, апрацаваны паводле пратакола з Кангрэсу. Пратакол не з'яўляецца стэнаграфічным запісам дыскусіі, таму яе пераказ аддае перш за ўсё сэнс і змест выступленняў, а не стылістыку і магнітафонную літаральнасць. Пераказ усіх выступленняў у дыскусіі будзе апублікаваны ў першым нумары бюлетэня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання.*

*Ян Максімюк*

* * *

**Антон Мірановіч (Беласток):** Пачну ад рэфлексіі: у палітычным жыцці беларускага народа мы сёння перажываем асаблівы момант. Упершыню, пасля II сусветнай вайны мы ствараем беларускую незалежную (і некамуністычную) партыю. Гэтая партыя не з'яўляецца ні лідэрскай, ні кадравай палітычнай арганізацыяй. Гэта — партыя праграмы беларускага нацыянальнага адраджэння. Праграму дыктуе нам жыццё. Зараз нас чакаюць выбары ў тэрытарыяльныя самаўрады. Мы павінны прыступіць да іх згуртаваныя, поўнасцю ўсведамляючы сабе, што выступаем у абароне нацыянальных і рэлігійных правоў беларусаў Беласточчыны. Добра было б, калі б мы ўсе зразумелі, што лёс Праваслаўнай царквы на Беласточчыне і лёс беларусаў на гэтай зямлі — гэта адзін лёс.

Жывем на сваёй зямлі ад тысячы гадоў, хаця не ў сваёй дзяржаве. Наш лёс нагадвае лёс усіх беларусаў — і тых у Са-

(Працяг на стар. 2)

## Бібліяграфічны куточак

### АЎКЦЫЁН У ЛОДЗІ

*Нашых бібліяфілаў просім звярнуць увагу на VI Лодзінскі антыкварны аўкцыён, які прадбачваецца на 4—5 красавіка г.г. (торгі адбудуцца ў канцэртнай зале Музея гісторыі горада Лодзь, што на вул. Аградовай № 15). Будзе можна купіць наступныя выданні:*

*Poz. 61 — Adamus J., Zastaw w prawie litewskim XV i XVI wieku, Lwów 1925. Cena wywoławcza 2 tys. zł.*

*Poz. 98 — Chodynicki K., Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska: zarys historyczny. 1370—1632, Warszawa 1934. C.w. 12 tys. zł.*

*Poz. 109 — Dąbkowski P., Stanowisko cudzoziemców w prawie litewskim w drugiej poł. XV i w XVI wieku, Lwów 1912. C.w. 4 tys. zł.*

*Poz. 121 — Działalność kulturalna Polski na Ziemiach Wschodnich: rys historyczny, W-wa (1942), C.w. 5 tys. zł.*

*Poz. 135 — Gloger Z., Geografia historyczna ziem dawnej Polski, Kraków 1900. C.w. 8 tys. zł.*

*Poz. 199 — Langrod J.S., O autokefalji prawosławnej w Polsce: studjum z zakresu polskiej polityki i administracji wyznaniowej, W-wa 1931. C.w. 8 tys. zł.*

*Poz. 201 — Lelewel J., Historie de la Lithuanie et de la Ruthenie..., Paris 1861. C.w. 12 tys. zł.*

*Poz. 291 — Stryjkowski M., Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi, T. 1—2, W-wa 1846. C.w. 80 tys. zł.*

*Poz. 309 — Tur L., Uniwersytet Wileński i jego znaczenie, Lwów 1903. C.w. 4,8 tys. zł.*

*Poz. 316 — Wasilewski L., Dzieje męczeńskie Podlasia i Chełmszczyzny; Kraków 1916. C.w. 3 tys. zł.*

*Poz. 321 — Wierzbowski T., Szkoły parafjalne w Polsce i na Litwie za czasów Komisji Edukacji Narodowej (1773—1794), Kraków 1921. C.w. 6 tys. zł.*

*Poz. 556 — Grivec F., ŚŚ. Cyryl i Metody apostołowie Słowian, Kraków 1930. C.w. 4 tys. zł.*

*Poz. 597 — Kłos J., Wilno (przewodnik krajoznawczy), Wilno 1929. C.w. 10 tys. zł.*

*Poz. 670 — Mościcki H., Wilno, W-wa 1922. C.w. 6 tys. zł.*

*Poz. 699 — Orłowicz M., Karpiński J.J., Białowieża i Hajnówka, Białystok 1937. C.w. 2 tys. zł.*

*Poz. 839 — Remer J., Wilno, Poznań (1935?). C.w. 60 tys. zł.*

*Poz. 840 — Rok bojów na Polesiu (1915—1916): notatki i szkice oficerów 6 Pułku Legionów Polskich, W-wa (1917). C.w. 16 tys. zł.*

*Poz. 850 — Urbański A., Podzwonne na zgliszczach Litwy i Rusi, W-wa 1928. C.w. 50 tys. zł.*

*Poz. 967 — Ilustrowany Kalendarz Powszechny Informacyjny Policji Państwowej Ziemi Wileńskiej, R. 2 (1924). C.w. 4 tys. zł.*

*Poz. 969 — Kalendarz Domowy Litewski na rok zwyczajny 1882 dla wszystkich stanów z dodatkiem mapy gubernij: wileńskiej, kowieńskiej i grodzieńskiej, Wilno 1881. C.w. 16 tys. zł.*

*Можна прыняць удзел ў аўкцыёне пісьмова. У заказах, якія трэба выслаць на адрасу: Antykwariat Naukowy, pl. Wolności 10/11, 91-415 Łódź, трэба падаць нумар пазіцыі, прозвішча аўтара і першыя словы загалоўка, а таксама найбольшую суму грошай, якую заказваючы згодны заплаціць за жаданае выданне.*

**Пётр Байко**



## Свойскія малюнкі




*Старая хата ў Беразове каля Дубровы-Беластоцкай.*
*Мал. У. Петрука.*

## З мінулага

*Штодзённая царкоўна-народная ілюстраваная газета „Слово“ выдавалася ў Варшаве з 1930 г. на працягу 9 гадоў рэдактарам-выдаўцам Д. Мельнікавым на рускай і польскай мовах. Тэматыка друкаваных матэрыялаў датычыла жыцця царквы, хаця змяшчалася многа артыкулаў палітычнага зместу. Нямала можна даведацца і пра жыццё царквы на тадышняй Беласточчыне. Газета змяшчала і своеасаблівыя рэкламы: ад радыёпрыёмнікаў да віна „Макоўскага“ і „незвычайнай навіны 1935 года — пісталета „Мубіс“, ад якога „грабежнік губляе свядомасць“. Чытачам „Нівы“ прапануем вестку з 1936 г. з вёскі Хільмоны, што на Дуброўшчыне.*

**М. Сахарэвіч**

### ПАН ПРЭЗІДЭНТ КУМАМ

„У маі гэтага года (1936 — рэд.) у селяніна праваслаўнага веравызнання сяла Хільмоны, Сакольскага павета, Беластоцкага ваяводства, Язэпа Сулімы нарадзіўся чарговы — восьмы сын (усе сыны жывыя). Шчаслівы бацька вырашыў прасіць Прэзідэнта Рэчыпаспалітай, праф. Ігнація Масціцкага ў хросныя дэ наймалодшага сына. Прэзідэнт прыняў запрашэнне і, у знак свае згоды, прыслаў на імя свайго хросніка ашчадную кніжачку з адпаведнай сумай. Пры Таінстве Хрышчэння замест Прэзідэнта быў стараста Сакольскага павета Канстанцін-Вітаўт Чахоўскі. Хроснаю была жонка настаяцеля прыхода ў Ячне Вольга Мацвееўна Неслухоўская. Таінства Хрышчэння над маленькім Ігнаціем учыніў настаяцель Ячненскага прыхода, Гродзенскай епархіі а. Н. Неслухоўскі 11 кастрычніка г.г. у прыхадскім храме ў прысутнасці вялікай колькасці народу. Пасля хрышчэння настаяцель у кароткіх словах выказаў радасць і падзяку Прэзідэнту Рэчыпаспалітай, што ён пажадаў быць кумам беднага праваслаўнага селяніна, падкрэсліваючы гэтым, што ўсе грамадзяне нашай дзяржавы роўныя, няглядзячы на веравызнанне“.

„Назіральнік“
(„Слово“ № 41 ад 8 лістапада 1936 г.)

## ПЕРШЫЯ СТАРОНКІ СУПРАЦОЎНІЦТВА

*Пад канец мінулага года па запрашэнню Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі прабывалі на Беласточчыне педагогі з Гродзеншчыны Тамара Прадзед — кіраўнік кабінета беларускай мовы і літаратуры Гродзенскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў і Алена Руцкая — заслужаная настаўніца БССР, паэтэса, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, выкладчыца беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы ў Слоніме. Маладая паэтэса мае ўжо за сабою выдадзеныя два паэтычныя зборнікі: „Надзея“ — ў 1983 годзе і „Роздум“ — у 1988, а таксама напісала метадычную кніжку „Літаратурныя вечары ў школе“ — як абмен вопытам у педагагічнай дзейнасці. Алена Руцкая з'яўляецца таксама членам калегіі рэдакцыйнай рады часопіса „Беларуская мова і літаратура ў школе“, які выходзіць у Мінску.*

*Прапануем чытачам уражанні Алены Руцкай з пабыўкі на Беласточчыне. Даслала іх яна зусім нядаўна.*

(яч)

— * —

Вечаровы, засыпаны блакітным снегам Беласток, мы выходзілі на твой перон з такім пачуццём, з якім чытач разгортвае жаданую кнігу, з якой расказалі яму некалькі яркіх, інтрыгуючых эпізодаў. Менавіта так, бо да гэтай паездкі была сустрэча ў Гродзенскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў. Гаспадыня кабінета беларускай мовы і літаратуры Тамара Прадзед прадставіла мяне свайму госцю, дырэктару Педагагічнай ваяводскай бібліятэкі ў Беластоку Яну Зенюку. Ён прывозіў кнігі для дзяцей, што вывучаюць польскую мову ў нас на Гродзеншчыне, а цяпер прыехаў, каб завезці на Беласточчыну беларускія кнігі. Але кнігі былі не адзіным яго клопатам. „Праблемы Гродзеншчыны і Беласточчыны, як адбітак у люстэрку, — вельмі падобныя. І каб лягчэй вырашаць іх, нам неабходна мацаваць сувязі, цесна супрацоўнічаць“, — акрэсліў ён другую мэту свайго візіту.

Мы атрымалі запрашэнне пазнаёміцца з выкладчыкамі беларускай мовы на Беласточчыне, з метадычнай службай, з работай педагагічных бібліятэк. Дзівіла шырокая дасведчанасць і шчырая зацікаўленасць гэтага чалавека. Літаральна праз некалькі хвілін мы ў агульных рысах ведалі аб пашырэнні наватарскага вопыту, аб цікавых конкурсах, пачулі імя Тамары Русачык, аўтара падручніка беларускай мовы для 2-га класа пачатковай школы „Васількі“.

Так, мы з Тамарай Прадзед чакалі ўбачыць многа цікавага для сябе, і ўбачанае пераўзышло нашы спадзяванні.

Праграма тыдня была вельмі насычаная. У першы дзень мы прымалі ўдзел у падвядзенні вынікаў конкурсу на лепшы прадметны кабінет, лепшую школьную бібліятэку, лепшыя, распрацаваныя настаўнікамі, метадычныя дапаможнікі, дыдактычныя матэрыялы, прыборы, табліцы. Азнаёміліся з патрабаваннямі і ўмовамі конкурсаў, параўналі з тым, што робіцца ў нас у гэтым аспекце. Усё гэта дапамагло ўбачыць рэальныя падставы для ажыццяўлення прапановы Яна Зенюка аб правядзенні падобных конкурсаў паміж выкладчыкамі Беласточчыны і Гродзеншчыны. Лішне, мне думаецца, каменціраваць, які гэта можа даць вялікі плён. Кранула нас і сама атмасфера, у якой праходзіла ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання, — без халоднай пампезнасці ганаровых прэзідыумаў, аддаленых ад мас гмахам сцэны і трыбуны, без доўгіх трафарэтных прамоў, — яна была сардэчнай і шчырай ад таго, што ўсе былі поруч, за столікамі з чаем, з той нічым не заменнай магчымасцю падзяліцца думкамі, зрэшты проста пагаварыць з творчымі, зацікаўленымі суразмоўцамі.

Вечарам таго ж дня мы накіраваліся ў Бельск. Цяжка аддаць чаму-небудзь перавагу па карыснасці інфармацыі. Цікавыя занатоўкі зрабілі мы для сябе, знаёмячыся з работаю Бельскай педагагічнай бібліятэ-

# Спяваць і жыць

(Працяг са стар. 1)

нікаў пільна выслухоўвае заўвагі і адразу бярэцца за працу, каб праз год выступіць ізноў, яшчэ лепш, яшчэ больш паспяхова. Сапраўднае спаборніцтва!

Узровень сёлетняга фінальнага агляду быў такі высокі, што фактычна, хочучы пісаць пра ўдзельнікаў, трэба было б напісаць пра кожнага з іх. Песня лілася шырока і далёка — ал найстарэйшых, фальклорных, аўтэнтычных песень — праз сучасную беларускую песню, напісаную мясцовымі і савецкімі паэтамі і кампазітарамі, — да суперсучаснай або суперсучаснага выканання народных песень.



Дуэт Люба Гаўрылюк — Яўгенія Астапчук.

Побач з вядомымі ўжо калектывамі, якія маюць рэгіянальны народны рэпертуар, як калектывы з Дабрывады, Дашоў, Хільмонаў-вёскі і Хільмонаў-хутара, з Чыжоў, Курашава, Арэшкава, Нараўкі, Орлі, Старога Ляўкова і іншых, з такімі славамі ўжо, як харавыя калектывы з Беластока, „Васілёчкі“ з Бельска, хор Гайнаўскага дома культуры, гарадоцкі хор, калектыў „Дубіны“, калектывы з Рыбалаў і Гданьска, паявіліся новыя, вакальна-інструментальныя калектывы, якія, можна сказаць, зрабілі рэвалюцыю ў нашым мастацкім руху.

Несумненна, першае месца належыцца тут маладому калектыву „Альбаросіка“ (беларускі — па-латыні), які працуе пад кіраўніцтвам Андрэя Хоміка пры ГП БГКТ. Працуе ён усяго некалькі месяцаў, а паказаў сябе як спелы, надзвычай арыгінальны калектыў. Вядома, сваім поспехам ён найбольш абавязаны вельмі таленавітаму салісту Янку Хоху, які праспяваў дзве беларускія песні „Родны мой горад“ і „Дробна пташачка“ ў суперсучасным, але якім жа абаяльным стылі! Сам жа зрабіў ён аранжыроўку, выступаючы ў ролі, так сказаць, музычнага інструктара. Хлопцы заваявалі першае месца ў катэгорыі вакальна-інструментальных калектываў, бо і не было яму роўных. Увага, „Дубіны“! У вас паявіўся моцны канкурэнт.

З новых калектываў цікава прадставілася таксама беластоцкае трыо „Калектыў 10“ пад кіраўніцтвам Стэфана Чарнэцкага. Заняло яно другое месца ў катэгорыі сучаснай песні сярод дуэтаў і трыо. Яшчэ з Беластока выступіў новы калектыў „Аро“ і, бадай, „Дудары“ з Гайнаўскага беларускага ліцэя, якія назваліся чамусьці „Фуяры“.

Пяціасабовае журы (старшыня — выкладчык Беластоцкай музычнай школы Ежы Сьрудкоўскі, з Варшавы — вядомы фалькларыст і музыколаг, журналіст Польскага радыё Мар'ян Даманскі, сакратар ГП БГКТ Віктар Стахвюк, выкладчык Беластоцкай музычнай школы Ежы Шапель і я, Ада Чачуга, адказны сакратар рэдакцыі „Нівы“), працавала ў суботу, 17 лютага, аж да 22-ой гадзіны. Нялёгка было вылавіць найлепшых. Кожнага з выканаўцаў варта было ўзнагародзіць, а адных жа калектываў было 22, да таго яшчэ выступіла 11 салістаў і 10 дуэтаў ды трыо.



Дуэт Яўгенія Коршак — Канстанцін Селелевановіч.



Сцяпан Копа — нястомны арганізатар мастацкага жыцця Беласточчыны.



Калектыў з Хільмонаў-хутара.

Успамінаю першыя песенныя конкурсы. Калектываў тады яшчэ было няшмат, ды і тыя былі вядомыя ўсім. У журы работы было мала, яно спраўна і хутка ацэньвала выканаўцаў і прызначала ім узнагароды. Вынікі конкурсу абвяшчаліся ўжо праз гадзіну, на працягу якой слухачы цешыліся вольнымі спевамі. Цяпер работы прыбавілася, але якая прыемная гэта работа! Багаты песенны ўраджай збіраем мы сёння.

У выніку шматгадзіннай нарады журы вырашыла прызнаць наступныя месцы найлепшым удзельнікам:

**У катэгорыі аўтэнтычнай фальклорнай песні:**

**Салістам:**

I — Марыі Міруць з Гарадка (яна атрымала ўзнагароду „Нівы“),

II — Юрыю Харкевічу з Бельска,

Вылучэнне — Язэпу Карпюку з Сямяціч.

**Дуэтам і трыо:**

I месца не прызнана,

II — Яўгеніі Коршак і Канстанціну Селевановічу, дуэту з Бельска,

III — жаночаму трыо з Бельскага дома культуры.

**Калектывам:**

I месца — мужчынскай групе калектыву „Васілёчкі“ з Бельска і жаночаму калектыву з Дабрывады,

II — калектывам з Гарадка і Дашоў,

III — калектывам з Хільмонаў-вёскі і Хільмонаў-хутара,

Вылучэнне — калектыву „Арэшкі“ з Арэшкава.

**У катэгорыі сучаснай песні:**

**Салістам:**

I месца — Але Дубец з Санока,

II — Любе Гаўрылюк з Беластока і Юрку Налівайку з Гарадка,

III — Дарку Фіёніку з Яблачына,

Вылучэнне — салісткам Лідзіі Маліноўскай і Юстыне Кардзюкевіч (абедзве з Бельска).

**Дуэтам і трыо:**

I месца — дуэту Люба Гаўры-



„Крынічка II“ з Бельскага беларускага ліцэя.



*Жаночае трыо з Бельскага дома культуры.*



*Юрый Харкевіч з Бельска.*

люк — Яўгенія Астапчук,

II месца — трыю „Калектыў 10“ з Беластока,

III месца — дуэту Раіса Тынявіцкая — Лідзія Янчук.

**Калектывам:**

I месца — калектыву з Рыбалаў і мужчынскаму актэту з Гайнаўкі,

II месца — калектыву „Жаваранкі“ з Гданьска і жаночаму калектыву з Беластока,

III — калектыву „Крынічка II“ з Бельска.

**Вакальна - інструментальным** калектывам:

I месца — калектыву „Альбаросіка“ з Беластока,



*Калектыў з Дабрывады.*

II месца не прызнана,

III — калектыву „Дубіны“ з Гайнаўкі і „Аро“ з Беластока.

Журы ацэньвала таксама ўклад працы і поспехі ў конкурсе музычных інструктараў, якія апекаваліся паасобнымі калектывамі. Як вядома, канадскае таварыства „Беларусь“ прызначыла для нашых інструктараў даволі высокія ўзнагароды за падрыхтоўку ўдзельнікаў да конкурсаў для дарослых і дзяцей, за агульны ўклад у нашу музычную культуру. І ёсць тут за што змагацца.

Што датычыцца грашовых узнагарод для лаўрэатаў, дык былі яны невысокія, сімвалічныя — па меры нашых сённяшніх магчымасцей. Найбольшая ўзнагарода — 100 тысяч злотых. Не думаю, каб Ала Лубец ехала аж з Санока на наш конкурс дзеля грошай. Выспявала яна першую ўзнагароду ў катэгорыі сучаснай песні. Заспявала „Я ад вас далёка“ на словы Янкі Купалы, музыка М. Куліковіча, і на апошнім канцэрце не вытрымала, расплакалася. Відаць, занадта дарага ёй было тое, што пакінула на Беласточчыне..

Сёлета яе мама, Люба Гаўрылюк уступіла ёй першае месца, але заняла другое, няшмат горшае, затое ў дуэтах не было лепшых ад Любы, хаця на гэты раз заспявала яна не з дачкой, а са сваёй сястрой Яўгеніяй Астапчук. Занялі яны першае месца ў катэгорыі сучаснай песні. Колькі памятаю Любу, яна ўсё спявае. Пасталела, валасы пакрыліся інеем, стала бабуляй, а без песні жыцця сабе не ўяўляе.

А гданьскі калектыў! Не гаворачы ўжо пра адлегласць, якую трэба было ім праехаць, яны ж тры ночы начавалі ў Таварыстве на Варшаўскай, спалі ў спальных мяшках проста на падлозе. Але як заспявалі „Ты Беларусь мая, шыпшына“ на словы Уладзіміра Дубоўкі, музыка М. Куліковіча! Апынуліся не толькі на другім месцы ў катэгорыі сучаснай песні, але і атрымалі Кубак дырэктара Ваяводскага дома культуры ў Беластоку! Надта ўзмужнеў гэты калектыў пад мастацкім кіраўніцтвам Ірынея Лаўрашука.

Усе яны — і з Гданьска, і з Бельска, і з Гайнаўкі, і самадзейнікі з Рыбал, што самі ствараюць сучасны фальклор, і чароўныя жанчыны з Беластоцкага аддзела, якія бліскуча выступалі на аглядзе, і сімпатычная Ірына Лукша з Семяноўкі, якая ў хаце пакінула малых дзяцей, каб заспяваць упершыню ў фінальным аглядзе выцягнутыя ёю старыя-старыя калядкі, — усе яны — пялёсткі гэтай



*Калектыў „Альбаросіка“ з Беластока.*

зямлі, на якой без песні жыць немагчыма.

Спяваць і жыць!

Перада мною сядзелі, відаць, бабуля і дзед з унукам. Хлопчыку было месяцаў сем-восем. Ён увесь час то падспеўваў самадзейнікам, то раптам пачынаў плакаць. Тады бабуля яго сарамліва мацала і бегла хутчэй на калідор, каб памяняць малому пялёнку і паўзунок. Малы вяртаўся на руках бабулі і зноў, радасна падспеўваў і махаў ручкамі, быццам малады дырыжор, які прыходзіць на змену старому пакаленню.

І мне падумалася: гэты малы напэўна будзе ведаць, хто ён, яму нічога такога талкаваць не давядзецца. Ён будзе наступны.

**Ада Чачуга**

**Фота Сяргея Грынявіцкага**



*Людзі сядзелі і стаялі.*



*Яны вялі фінальныя канцэрты. Валянціна Ласкевіч і Мікалай Бушко, заслужаныя на ніве беларускай культуры дзеячы.*

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Васіль Хомчанка

# СЦЁПКА

Вясна прыляцела адразу. Дружная, жаданая. Снег растаў хутка. Зямля вольна ўздыхнула, скінуўшы з сябе зімовае ўбранне.

Раніца...

Я і Сцёпка ідзем па лясной дарозе. Сцёпка худзенькі, цыбаты хлапчук, з густымі вяснушкамі на бледным твары. Ён вельмі сарамлівы, ціхмяны і носіць акуляры. Дзеці дражняць Сцёпку сцяблом-граблом, відаць, за доўгія ногі і часта з яго пакепліваюць. Надта ж вялікі ён дамасед, гэты Сцёпка. Ён цалюткімі днямі праседжвае над кнігамі або перад тэлевізарам.

А ўчора Сцёпка зайшоў да мяне, стаў ля парога, пачырванелы, нязграбны, доўга пераступаў з нагі на нагу. Нарэшце асмеліўся і сказаў:

— На паляванне хачу з вамі. Вазьміце.

Сказаў так і зірк па пакоі — ці няма каго з хлапчукоў, бо засмяюць.

Мне і самому стала смешна. Сапраўды, які са Сцёпкі паляўнічы!

Але я згадзіўся ўзяць Сцёпку з сабою і загадаў яму падняцца заўтра ў тры гадзіны і адразу бегчы да мяне. А сам пачаў рыхтаваць стрэльбу і для Сцёпкі.

І вось мы ідзём.

У кожнага з нас стрэльба на плячы, рукзак за спіной. Я ў гумавых ботах з доўгімі халявамі. У Сцёпкі яшчэ і кош з падсаднай качкай Дашкай. Мы спяшаемся на Сітняговае возера. Вельмі рана. Уначы быў невялікі замаразак, ён зацягнуў лужынкі тонкім ільдом. Пад нагамі лёд храбусціць, як шкло.

Хутка ўзыдзе сонца. Над галавой праносяцца качкі. Паветра сухое і празрыстае. Раз-пораз па нас хвошчуць арэхавыя галінкі. Іх ружовыя ад зары коцікі ахутаны пылком. Мы ўжо абсыпаны ім, як гарохавай мукой, але нам здаецца гэтага мала. Я стукаю па ствале арэшыны абушком сякеркі, і ўсё дрэва ажно дыміцца.

Падыходзім да возера.

Сцюдзёнае і ружовае, спакойна стыне яно пад ранішнім, такім жа ружовым небам. Пасохлае трысце на ўзбярэжжы пасерабрыў іней.

Сцёпка сцішаны і ўсхваляваны. Мабыць, упершыню ў жыцці ён бачыць такую раніцу.

Леташні будан мой цэлы. На месцы і човен, які я выдаўбаў з камля старой ліпы. Спіхваем яго на ваду, выпускаем прывязаную за нагу Дашку ў возера. Сцёпка залазіць у будан.

— Ну, хлопец, будзь шчаслівы, — зычу я ўдачы. — Ні пуху, ні пер'я.

Сцёпка не чуе. Ён ужо прасунуў ствол стрэльбы ў байніцу і прыціснуў прыклад да плячa.

А я выбраў сабе месца метраў за пяцьдзесят ад будана, каб не перашкаджаць паляўнічаму шчасцю хлопчыка. Мне відаць вільчак Сцёпкавага будана, бераг возера і Дашка.

Я пускаю чучала качкі ў трыснёг і раз-пораз пакрэкваю ў вабік.

— Крэ-крэ! — крычыць Дашка.

Раптам вылятае з трыснягу качар і праз момант плюхаецца ў ваду каля Дашкі. Хутка і другі качар прашваркаў у паветры, таксама паляцеў на кліч падсадной качкі.

Сяджу нерухома хвілін пяць, чакаю Сцёпкавых стрэлаў. Цішыня, толькі чуваць, як плюскочуць, ажно шалеюць качары. Чаму ён не страляе? Ах ты, гора-паляўнічы...

Хаваючыся за кустамі, іду да Сцёпкі. Запаўзаю ў будан.

— Што рот разявіў? — злосна шапчу яму.

Сцёпка маўчыць. Ён прыціснуўся да зямлі, ляжыць і, здаецца, не дыхае. Вочы шырока расплюшчаны, губа прыкушана. Стрэльба сіратліва ляжыць побач.

Я ўскідваю стрэльбу, бяру на мушку правага качара.

— Дзядзька, а дзядзька, — шэпча пабялелымі губамі хлопчык. — Не трэба. Прыгожа як.

Перад самым буданом б'е крыламі па вадзе прывязаная Дашка. Два прыгажуны качары мітусяцца каля яе, крычаць, плюскочуць, круцяцца на адным месцы. Вось яны падплываюць да берага, потым паварочваюцца і, разразаючы вадзяную роўнядзь, плывуць на возера. Яны клічуць за сабой сяброўку, клічуць і не разумеюць, чаму яна не плыве за імі. А Дашка тра-

(Працяг на стар. 10)



Фантазія вясны.
Фота В. Жушмы.



*Сцэнка з п'есы „Гномікі" ў пастаноўцы школьнага тэатра з бельскай школы № 3.* *Фота Я. Чэрнякевіч.*

Алена Шарэпа-Лапіцкая

## БАЦЯН

Кля-кля-кля!
Кля-кля-кля!
На балоце
першы я!
Я — Бацян,
Вялікі пан,
белы
прыадзеў
жупан.
І хаджу
па ўсіх балотах
у чырвоных
новых
ботах.
Я — вышэйшы,
Я — дужэйшы,
Я — за ўсіх
Найпрыгажэйшы!

Ул. Дубоўка

## ЧАМУ Ў ЗАЙЦАЎ КАРОТКІЯ ХВАСТЫ?

Казка

Кажуць людзі, што калісьці
хвост у зайца быў пушысцей

і даўжэй, кым у лісіцы.
Як ён мог укараціцца,

стаць такім, што смеху варты?
Памаглі ў тым зайцу жарты.

Каля рэчкі, беражком
зайцы бегалі ўпрыскочку.

Лета — ўсім жывым, як свята.
Кожны куст для зайца — хата.

А прысмакаў ці ласункаў —
што яго згадае думка.

Зайцы бегалі, скакалі,
паглядалі ўсё на хвалі.

За ракой пабыць цікава!
Там растуць такія травы,

што нідзе на свеце нашым
больш няма падобнай пашы,

Але як туды дастацца —
не дадумаюцца зайцы.

Раптам сом наповерх выплыў,
іх стары знаёмы сціплы.

Прывіталі сома зайцы:
— Дзядзя Сом, дазволь
спытацца —

нас ці вас на свеце болей?
— Не лічыў я вас ніколі, —

кажа зайцам Сом на тое.
— Вас, здаецца, толькі двое.

Нам, усім, няма і ліку, —
мы жывём сям'ёй вялікай... —

Так у іх, за словам слова,
завязалася размова.

Прапануюць зайцы Сому:
— Вам пра зайцаў невядома,

вы ад нас вадой закрыты,
Скліч самоў усіх сюды ты,

хай яны да боку бокам
догстануць на рацэ глыбокай.

Мы спачатку вас палічым,
зайцаў заўтра ўсіх паклічам... —

Сом згадзіўся. Без адкладу
па самоваму загаду

ўсе самы павыплывалі
з глыбіні, з віроў, на хвалі

і ад берага на бераг
у адзіны сталі шэраг.

Не марудзячы й хвіліны,
зайцы па самовых спінах

і пабеглі, як па мосце,
сапраўды, як ягамосці.

Бегучы, нібыта лічаць,
смех хаваючы ў абліччах:

„Раз, два, тры, чатыры, пяць, —
як сцяна самы стаяць.

(Працяг на стар. 10)



*Удзельніца беларускага дэкламатарскага конкурсу з Орлі Аня Главацкая. Фота Я. Чэрнякевіч.*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР 315315, Полтавская обл., г. Кременчуг, ул. 40 лет Октября, дом 4, кв. 43. Трахтман Лене (7 клас).

* ✻ *

БССР, 220020, г. Мінск, вул. Радужная, дом 8, корп. 2, кв. 342. Емяльянава Света (6 клас); кв. 193 — Оля Гарачка (6 клас).

* ✻ *

СССР, 346714, Ростовская обл., Аксакайский район, пос. Рассвет — 1, дом 13, кв. 24. Дубикову Жене (хоча перапісвацца з дзесяцігадовым хлопчыкам).

* ✻ *

СССР, 346714, Ростовская обл., Аксакайский район, пос. Рассвет — 1, дом 11, кв. 45. Семиниченко Валерии (8 клас).

* ✻ *

СССР, 279200, Молдавская ССР, г. Бельцы, ул. Хотинская, 24/34. Овчаренко Аля (13 гадоў).

* ✻ *

БССР, 220004, г. Мінск, вул. Шпалерная, 10, кв. 3. Міцічкіна Каця (3 клас).

* ✻ *

БССР, 220055, г. Мінск, вул. Алібегава, д. 27, корпус I, кв. 29. Жуку Уладзіславу (6 клас) і Жуку Сяргею (2 клас).

* ✻ *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, п. Майский, ул. Келдыша, д. 5а, кв. 9. Романкова Лена (14 гадоў).

(Працяг са стар. 9)

## СЦЁПКА

се галавой, прыхарошваецца. Качары зноў вяртаюцца, робяць вакол яе нецярплівыя кругі. Качары вельмі прыгожыя са сваімі бронзава-зялёнымі чубікамі і яркай шыяй. Прыгожыя, як жар-птушкі.

Штосьці ўздрыгвае ў маіх грудзях. Я апускаю стрэльбу. Упершыню за ўсе гады палявання я гляджу на качак не як на здабычу... Птушкі радуюцца жыццю, вітаюць вясну і раніцу, і мне самому перадаецца іх радасць. Адным стрэлам я згубіў бы ўсё гэта хараство.

Узыходзіць сонца. Быццам залатым дажджом сыпанула па зямлі. Усё адразу ажывае, зіхаціць, прыходзіць у рух. Цыфікаючы сініцы над галавой, выводзіць доўгае калена берасцянка, лёгка і пяшчотна ўздыхае ветрык. Возера, растварыўшы ў сабе фарбы зары, успыхвае сінявой.

Так і не прагрымелі нашы стрэлы. Мы вярталіся дамоў шчаслівыя, прыцішаныя ад той радасці, што падарыла нам вясновая раніца.

І ўсё праз гэтага Сцёпку, майго добрага спадарожніка.

## Вершы Віктара Шведа

### У ЛЕКАРА

— Прыходзіш лячыцца
Да мяне, сынок,
Дык раней памыцца
Трэба, галубок.

— Вось якая справа, —
Адказаў Пятро, —
Думаў, што цікавіць
Вас маё нутро.

### КОНЬ І АСЁЛ

На лужочку за сялом
Пасвілі жывёлу дзеці.
Паспрачаўся конь з аслом:
Карыснейшы хто на свеце?

— Конь, як тут ні гавары,
Найважнейшы ёсць бясспрэчна!
— Вас заменяць трактары,
А аслы жыць будуць вечна!

### БЫЎ ПЕЦЯ НА БАЛЕЦЕ

З маткаю аднойчы Пеця
Быў на гарадскім балеце.
— Ці прыгожы быў балет? —
Запытаў у хаце дзед.
Адказаў унучак з жалем:
— Там на пальцах танцавалі,
Быццам бы ў іх акурат
Больших не было дзяўчат.

### ВЯЛІКАЯ ТАЙНА

Нечакана Яраслаў
Мае жаль да брата:
— Чаму ўсім ты расказаў,
Што я дурнаваты?

— Дык не ведаў, братка, я,
Магу пабажыцца,
Што вялікая твая
Гэта таямніца.

### РЫБАЛОВЫ

— Дзе ты ўчора, дружа, быў?
— Рыбу ў рэчцы я лавіў.
— Ды хацела рыба браць?
— Прынёс кілаграмаў з пяць!
— Сёння я тырчэў з вудой,
Не злавіў нат і адной.
— Дык я ўчора пакрысе
Вылавіў там рыбкі ўсе.

### ЧАМУ ЁН ВЫДУРНЯЕЦЦА?

На тэлевізара экране
Аркестр іграў сімфонію.
Ён раптам выклікаў у Вані
Дзіцячую іронію.

На дырыжора пазірае
І тату ён пытаецца:
— Чаму тады, калі іграюць,
Адзін дык выдурняецца?

Алена Руцкая

### ЗАГАДКІ-ВЕРШАНЯТКІ

* ✻ *

Што за пульхныя пярыны
Зранку сонейка закрылі?
Хутка дожджык пойдзе шпаркі,
Бо пярыны тыя ...

хмары!

* ✻ *

Зоркі кружаць у паветры,
Іх праз сіта сее ветрык,
Як карункі з павуцінкі,
Зоркі гэтыя ...

сняжынкі!

* ✻ *

Адзежынка, нібы з маністаў,
Сярэбраная ўся дачыста.
Гуляе ў рэчцы там, дзе глыбка,
А хто такая? Гэта ...

рыбка

(Працяг са стар. 9)

## Чаму ў зайцаў кароткія хвасты?

Раз, два, тры, чатыры, пяць, —
добра зайчыкам гуляць".

Лапкі ўжо на бераг сталі,
засталіся ззаду хвалі.

Ды хвасты у ягамосцяў
валакуцца дзесь па мосце.

Як на бераг лапкі ўзнеслі,
заспявалі зайцы песню:

„Ашукалі, ашукалі,
ашукалі мы самоў!

Ашукалі, ашукалі
мы вусатых дзівакоў!"

Задзівіліся самы ўсе.
Хто ж бы тут не задзівіўся?

— Пачакайце, — кажуць
зайцам, —
трэба ўсё ж ткі нам дазнацца,

ашуканства тут якое?
Раскажыце нам пра тое! —

І адразу, ў той жа хвілі,
ім хвасты і прышчамілі.

Зайцы тузаюць упарта.
Ім цяпер малыя жарты:

так папалі, як у нерат,
ані ўзад, ані ўперад.

А самы самкнулі зубы.
На хвасты прыходзіць згуба.

Тузанулі зайцы тыя,
адарваліся хвасты іх.

І пабеглі без хвастоў так.
Вось чаму ў іх хвост каротак!

З той пары не ходзяць болей
да самоў яны ніколі...

### ШУСТРЫ ЗАЙ

Шустры Зай
Спытаў Данілку:
— Ты не хочаш
Мець лічылку?
Іх навалам у бары —
Колькі хочаш,
Набяры.
Камарыных,
І зубрыных,
І лісіных,
І ласіных
Назбіраеш поўны мех...
Ты лічы,
А я пабег.

Пятро Сушко

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Пайшоў дзядзечка на шпацыр з сабакам. Ды вось бяда: згубіўся сабака. Знайдзі яго ў парку.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. „Зорка"

# РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ“

**Санет** — бяссоніца.
**Седала** — крэсла.
**Сечка** — сякера.
**Сілас** — моцны чалавек, волат.
**Скала** — палка, кіёк.
**Скарынкі** — лапці.
**Слуганне** — уборка сена з луга.
**Смаката** — мыш або малако.
**Снарад** — чалавек, які любіць спаць, соня.
**Сонейка** — жанчына-соня.
**Спадчына** — атмасферныя ападкі на зямлю.
**Станок** — чалавек у чарзе.
**Стайня** — крама, у якой часта стаяць чэргі.
**Сталярня** — металургічны завод, выплаўляючы сталь.
**Старонка** — бабуля.
**Старшыня** — дзядуля.
**Стрэлка** — дубальтоўка.
**Студня** — халадзільнік.
**Сумка** — сумная дзяўчына.
**Супадаць** — занятак афіцыянта.

„ядань“

# ПАРОДЫ

## ПАПРОК

*Дзе зор,*
*Дзе радзімак галактыка?*
*Малю ў вечаровым запале,*
*Каб гузікі ўсе з халаціка,*
*Як знічкі з твайго апалі.*

Рыгор Барадулін

Дзе зор,
Дзе радзімак галактыка?
Малю ў вечаровым запале,
Каб гузікі ўсе з халаціка,
Як знічкі з твайго апалі.

Каб ты,
Як-Венера Мілоская,
Мяне асляпіла раптоўна,
Каб крыкнуў я: „Матка боская!
О, Божа, як гэта цудоўна!“

Малю,
Ды праклятыя гузікі
Вісяць сабе, як і веселі,
А сэрца з прарэхі вузенькай
Сузор'е чаруе на целе.

Малю,
А ты нечага моршчышся
І раптам праткнула вачамі:
— Рыгорка, што ты молішся?
Даўно б расшпіліў рукамі!

Янусь Малец

# НІЎКА

Ці гэта праўда, што з-за крызісу сёлета будзе абмежавана цеплавая энергія?

## КРЫЗІС

Тое, што ў нашай краіне зараз крызіс, усім вядома. Нават у некаторых сталовых даюць бясплатна супы або абеды для бедных. Але і ў такіх нялёгкіх абставінах трапляюцца смешныя сітуацыі. Аб такім здарэнні расказваюць у Беластоку і пісалі ў мясцовай прэсе. А было яно так.

У сталовую „Акадэмічная“ ўвайшла жанчына паабедаць. Купіла таматны суп і клёцкі, занясла іх на столік, затым пайшла па кампот. Калі вярнулася да століка, убачыла, што сядзіць пры ім негр, праўдападобна, студэнт Медыцынскага інстытута, што па суседску) і есць таматны суп. Збянтэжаная жанчына, нічога не сказаўшы, прысела да століка і стала есці клёцкі. Негр, з'еўшы суп, устаў ад століка і цікаю запытаў жанчыну:

— Крызіс?

— Крызіс?... — ні то ў адказ, ні то са здзіўленнем адазвалася дама.

Калі, паабедаўшы, выходзіла яна са сталовай, здранцвела. Побач, на суседнім століку стаялі дзве талеркі: з таматным супам і клёцкамі.

## МАТЧ

Чэрці прапанавалі анёлам згуляць у футбол.

— Мы згодны, — адказалі анёлы. — Тым больш, што найлепшыя ігракі знаходзяцца ў нас...

— Магчыма, — не сталі спрачацца чэрці, — затое ўсе суддзі нашы...

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132-3.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787, nr rachunku walutowego w rublach 5021-24325-151-6201.

Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.

Спіс чарговых ахвяравальнікаў:

Сума 1000 долараў, сабраная ў ЗША Сяргеем Карніловічам:

| | |
|---|---|
| 3089. Кастусь Калоша | — 250 дол. |
| 3090. Сяргей Карніловіч | — 125 дол. |
| 3091. Ірка Каляда-Смірноў | — 50 дол. |
| 3092. Анатоль Лук'янчык | — 50 дол. |
| 3093. Беларуска-амерыканскае задзіночанне | — 50 дол. |
| 3094. Беларуска-амерыканскае згуртаванне | — 50 дол. |
| 3095. Раман Баднарук (украінец) | — 45 дол. |
| 3096. Андрэй Стрэчань | — 30 дол. |
| 3097. Алесь Міраеўскі | — 30 дол. |
| 3098. Міраслаў Целушэцкі | — 20 дол. |
| 3099. Валя Яцэвіч | — 20 дол. |
| 3100. Эва Яраховіч | — 20 дол. |
| 3101. Янка Ханенка | — 20 дол. |
| 3102. Таццяна Кананчук | — 20 дол. |
| 3103. В. Зубкоўскі | — 20 дол. |
| 3104. Янка Каваленка | — 20 дол. |
| 3105. Аркадзь Сацевіч | — 20 дол. |
| 3106. Іна Рытар-Каханоўская | — 10 дол. |
| 3107. Васіль Ягаўдзік | — 10 дол. |
| 3108. Астап Яраховіч | — 10 дол. |
| 3109. Адам Пракаповіч | — 10 дол. |
| 3110. а. Міхась | — 10 дол. |
| 3111. а. Якуб | — 10 дол. |
| 3112. Люба Блізнюк | — 10 дол. |
| 3113. Люба Северанюк | — 10 дол. |
| 3114. Антон Кавалеўскі | — 10 дол. |
| 3115. Юрка Гасцеяў | — 10 дол. |

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej i Ruchu Rewolucyjnego. 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі“).

„Niwa“
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty pocztowej na 1990 r.:

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek w których nie ma Oddziałów RSW a także osoby niepełnosprawne bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1990 r. upływa 20 maja 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch“ Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28 Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Mieszkańcy miast mogą zamawiać prenumeratę indywidualną poprzez Oddziały RSW w następujących formach:

- prenumerata instytucjonalna (w zakładach pracy).
- rezerwacja w tzw. teczkach (we wszystkich kioskach).
- prenumerata własna RSW (w wytypowanych kioskach).

Zam. 147/90 r. U-3.